**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 31 (852) 4 жніўня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае









## Запрашаем на вадасвятны малебен

7 жніўня 2016 года а 10-й гадзіне, паблізу в. Сарокі Асінагародскага прыходу (Пастаўскі р-н) адбудзецца вадасвятны малебен на крыніцы Вялікапакутніка і лекара Панцелеімана.




ISSN 2077-8023





**Віталь Воранаў – беларускі перакладчык, літаратар, выдавец, публіцыст і універсітэцкі выкладчык адраджае на Глыбоччыне дударскія традыцыі.**

**Гэтым разам Віталь завітаў у Германавічы на краязнаўчую канферэнцыю ды прачытаў даклад аб гісторыі дударства на Глыбоччыне.**

**Працяг на 4-й стар.**

*Фота Ул. Скрабатуна.*

















**У нас змяніўся нумар тэлефона, цяпер – 8 (02156) 5-52-94**

## Сенненскі раён

# Падманам сыты не будзеш

■ Чэслаў Якубовіч.

**Чамусьці ў нас нават там, дзе праводзяцца штогод пампезныя “Дажынкі”, выяўляюцца факты безгаспадарчасці і розных злоўжыванняў у сельскай гаспадарцы.**

У гэтым годзе даверылі правесці абласное свята хлебаробаў Сенненскаму раёну і на падрыхтоўку фестывалю-кірмашу з розных крыніц выдаткавалі амаль 170 млрд. старых грошай. Дзякуючы своечасоваму пачатку работ і рытмічнаму фінансаванню больш паловы з намечанага абнаўлення жылфонда і іншых аб’ектаў райцэнтра ўжо выканана. А вось спецыялісты Дзяржкантролю пасля праведзенай праверкі прымусілі пакінуць сваю пасаду дырэктара мясцовага райаграсервіса. Як высветлілася, на працягу некалькіх гадоў па ўказанні былога кіраўніка займаліся скажэннем паказчыкаў вытворчай дзейнасці. Такім чынам на паперы было вырашчана за некалькі гадоў нават 810 тон мяса, за што экс-дырэктар і яго памочнікі атрымоўвалі важкія надбаўкі да заработнай платы. Пры гэтым радавыя працаўнікі атрымоўвалі ў параўнанні з імі капейкі, да таго ж са спазненнем. У мясцовым райаграсервісы рэгулярна ўзнікалі запазычанасці па выплатах зарплаты. Аднак па ўказанні гора-кіраўніка падаваліся наверх дадзеныя, што з людзьмі разлічыліся за працу. На самой справе даўгі па зарплаце ў гэтым калектыве дасягнулі значнай сумы 1,6 мільярда рублёў да прайшоўшай дэнамінацыі. Магчыма, там разлічвалі, што факты падобных махінацый удасца схаваць пасля прайшоўшай рэарганізацыі і аб’яднання з насенняводчым саўгасам імя Данукалава. Аднак Віцебскі абласны Эканамічны суд прызнаў яе несапраўднай і адмяніў. Справай самога падманшчыка дырэктара займаюцца зараз ужо праваахоўныя органы.

## Докшыцкі раён

# Дарогі – зона трагедый

■ Станіслаў Раманчук.

**На беларускіх дарогах апошнім часам істотна прыбавіліся легкавых машын, але адначасова, на жаль, расце там колькасць аварый з цяжкімі наступствамі.**

Вось і ў Докшыцкім раёне летам зафіксавалі некалькі такіх ДТЗ з гібеллю людзей. Самая жудасная з іх адбылася нядаўна позна вечарам на ажыўленай пастаянна трасе Мінск-Віцебск паблізу гарпасёлка Бягомль. Там ля вёскі Маргавіца ўжо прыкметна сцямнела, да таго ж ішоў споры дождж, аднак гэтыя фактары не ўлічыў кіроўца Audi з гарпасёлка Ветрына, што на Полаччыне. Ён разам з трыма знаёмымі маладымі хлопцамі з Наваполацка ва ўзросце 29, 30 і 35 гадоў у нейкі момант страціў увагу і выскачыў на паласу сустрэчнага руху. На ёй у беларускую сталіцу вёз сваю дачку да бабулі на аўтамабілі “Ford-Mondeo” 50-гадовы жыхар Санкт-Пецярбурга. Паколькі абедзве іншамаркі ехалі на значнай хуткасці, ад моцнага лабавога ўдару шанцаў выжыць практычна нікому з пасажыраў не было. На шчасце, верагодна Госпад вырашыў пашкадаваць 9-гадовую піцерскую дзяўчынку. Яе дасталі з салона з цяжкімі траўмамі цела, шпіталізавалі ў бальніцу, а потым прааперыравалі. Да пацярпелай з паўночнай расійскай сталіцы прыехала яе мама, а ўрачы спадзяюцца, што яна папраўіцца пасля працяглага курса лячэння. Іншыя чатыры мужчыны загінулі ў момант сутыкнення ад атрыманых траўм, несумяшчальных з жыццём. Перад гэтым сёлета летам на адной з аўтадарог раёна вадзіцель збіў насмерць 3-гадовую дзяўчынку, якая раптам выбегла на праезную частку…

## Віцебск

# Лес памылак не даруе

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе, па ацэнках спецыялістаў, найбольш дароў лесу можна сабраць у лясах на Віцебшчыне.**

У лясныя масівы кожны дзень адпраўляюцца за ягадамі і грыбамі дзесяткі тысяч людзей, а сярод іх неапраўдана рызыкоўць пажылыя пенсіянеры. Такім чынам патрапіла днямі ў непрыемную гісторыю 86-гадовая яшчэ рухавая віцяблянка. Яна пражывала ў абласным цэнтры разам з унукам, аднак не папярэдзіла яго і іншых родных, што паедзе ў лес. Гараджанка праехала на аўтобусе 35 кіламетраў па трасе ў накірунку Сенненскага раёна. Там яна сабрала лекавыя травы вакол ляснай дарогі, зайшла ў лес, дзе было шмат ягад. Потым старая заблудзілася ў гушчары, але з сабой мела зараджаны спраўны мабільны тэлефон, з якога патэлефанавала ў горад вечарам і паведаміла, што не можа выйсці з лесу. Устрывожаная радня пачала начныя пошукі прапаўшай, але, не дабіўшыся поспеху, раніцай ужо звярнулася за дапамогай у міліцыю. На працягу дня пенсіянерку шукалі супрацоўнікі Першамайскага РАУС Віцебска, да якіх потым падключылі іх сенненскія калегі. Паступова тэрыторыя пошукаў звужалася, а ноччу прыйшлося запускаць ракетніцы, задзейнічаць гучную сувязь. Паколькі сувязь з пажылой жанчынай падтрымлівалася па мабільніку, яе знайшлі раніцай праз двое сутак. У медыцынскай дапамозе лясны рабінзон патрэбы не мела, у адрозненне ад яшчэ больш паджылой жанчыны з Пастаўскага раёна, якую не могуць знайсці з канца чэрвеня.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 04.08.16 | | | | Пятніца 05.08.16 | | | | Субота 06.08.16 | | | | Нядзеля 07.08.16 | | | | Пан. 08.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +17 | +22 | +19 | +15 | +19 | +26 | +22 | +19 | +21 | +26 | +19 | +17 | +15 | +21 | +18 | +12 | +15 | +21 |
| Ціск | 747 | 747 | 747 | 747 | 747 | 748 | 748 | 748 | 747 | 747 | 747 | 749 | 749 | 750 | 751 | 752 | 752 | 752 | 751 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-З | 5 Пд | 6 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд | 4 Пд-З | 3 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 7 Пд-З | 5 З | 5 З | 6 З | 6 З | 5 З | 4 Пд-З | 6 Пд-З | 7 Пд-З |
| Вільготнасць | 97 | 86 | 65 | 77 | 99 | 93 | 64 | 77 | 78 | 73 | 69 | 75 | 89 | 74 | 60 | 67 | 88 | 83 | 72 |

## Аб самым надзённым

# БЕЛАРУСЬ НЕ ПАЛОХАЕ РАЗГОРТВАННЕ ПА СУСЕДСТВЕ БАТАЛЬЁНАЎ НАТО, ЯНА ПАЧЫНАЕ СКАРАЧЭННЕ СВАЁЙ АРМІІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Як вядома, расійскі бок паблізу беларускіх граніц вырашыў размясціць сваю ваенную групоўку колькасцю ўжо 11 тысяч салдат і афіцэраў. Кіраўнік Міністэрства замежных спраў Беларусі У. Макей і яго намесніца А. Купчына сінхронна пацвердзілі, што наша краіна не бачыць ніякіх прамых пагроз для сваёй нацыянальнай бяспекі ад натаўскіх падраздзяленняў.**

Да звычайных паўсядзённых жыццёвых клопатаў беларусаў сёлета ў сярэдзіне лета дабавіліся яшчэ прыродныя катаклізмы. Сутыкненні патокаў гарачыні і больш халодных паветраных мас выклікалі шмат дзе па краіне моцныя лівіні з ураганнымі ветрамі. Толькі на Гродзеншчыне за лічаныя гадзіны з неба выпала да паловы месячнай нормы ападкаў. Ураган у сталічным рэгіёне таксама нарабіў бедаў: былі пашкоджаны дзясяткі машын, з корнем павырываны сотні дрэў, 16 мінчан патрапілі ў бальніцу хуткай дапамогі. У нас на Віцебшчыне сапраўдны смерч абрушыўся на Шаркаўшчыну, а яшчэ праз некалькі дзён без дахаў засталіся 30 дамоў на ўсходзе вобласці і Дубровенская райбальніца.

Па-ранейшаму працяг–ваўсялёгкі“шторм”іўрасійска-беларускіх адносінах. Нічым не закончыліся перамовы двух прэм’ер-міністраў у Маскве па вырашэнні газавых супярэчнасцей. З пачатку года наша краіна не аплочвае прыкладна палову цаны за газ, лічыць гэты кошт яўна завышаным і несправядлівым. У Крамлі беларускім партнёрам прама параілі плаціць па кантракце, пагасіць растучы доўг “не заводя ситуацию в тупик”. Са свайго боку Крэмль ужо пачаў дзейнічаць і паказаў, якім чынам ён паставіць на месца свайго суседа: Беларусі ўрэзалі адчувальна пастаўкі нафты, а гэта азначае, што яшчэ больш усохне з цягам часу паток нафтадолараў ад продажу айчынных нафтапрадуктаў на Захад.

Ужо відавочна, што расце незадавальненне пуцінскай эліты занятай нашай краінай пазіцыяй па многіх пытаннях. Яўна не спадабалася кіраўніцтву Расіі, што на надзвычайнай сесіі ПА АБСЕ ў Тбілісі беларуская дэлегацыя не стала галасаваць па рэзалюцыі па Крыме. А вось Арменія падала свой голас супраць, можа таму, што армянам сёлета расіяне некалькі разоў знізілі цэны на газ. Паміж саюзнікамі паглыбляюцца супярэчнасці і па ацэнцы знешніх пагроз. У Крамлі страшны вой і лямант узнялі пасля прынятага ў Варшаве на саміце НАТО рашэння размясціць у дзяржавах Прыбалтыкі і на польскай зямлі па адным батальёне іх войск колькасцю па тысячы ваеннаслужачых у кожным.

Як вядома, расійскі бок паблізу беларускіх граніц вырашыў размясціць сваю ваенную групоўку колькасцю ўжо 11 тысяч салдат і афіцэраў. Кіраўнік Міністэрства замежных спраў Беларусі У. Макей і яго намесніца А. Купчына сінхронна пацвердзілі, што наша краіна не бачыць ніякіх прамых пагроз для сваёй нацыянальнай бяспекі ад натаўскіх падраздзяленняў. Гэта ж відавочна і школьніку, вось толькі цяпер агрэсіўныя рускія генералы могуць задумацца, ці варта пасылаць сваіх “зялёных чалавечкаў” хоць бы ў тую ж Латвію. Там будуць заходнія ваенныя служыць, і ў выпадку нападзення Расіі, больш магутны заходні альянс не пакіне іх адных, прыдзе на дапамогу, хоць да гэтага, крый Божа, ні ў якім разе справы не павінны дайсці.

Тым часам сітуацыя ў айчыннай эканоміцы застаецца трывожнай і зусім невыпадкова днямі дзяржсакратар Савета Бяспекі Беларусі Станіслаў Зась зрабіў важную заяву. У бліжэйшы год у беларускай арміі будуць скарочаны 1300 ваеннаслужачых. Таксама пэўная аптымізацыя, па словах гэтага генерала, чакае іншыя сілавыя ведамствы: міліцыю і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Зразумела, на такія непапулярныя крокі дзяржава ідзе не ад добрага жыцця. Толькі ў нашых Узброеных сілах будуць звольнены людзі не з баявых пасад, а з так званага “абозу”. Сродкі, якія вызваляцца, накіруюць на патрэбы Міністэрства абароны, адлічэнні на ваенныя расходы з дзяржбюджэту такім чынам зменшацца.

Ваенна-палітычную абстаноўку ў Еўропе і ў цэлым свеце апошнім часам пачала абвастраць, прама скажам, наша суседка Расія. Яе паводзіны непрадказальныя, заходнія лідары ніяк не могуць зразумець логіку паводзін палкоўніка Пуціна, які паступова становіцца сусветным ізгоем. Беларусам цяпер варта больш думаць пра свае нацыянальныя інтарэсы, тым больш, што з 1995 года Беларусь з’яўляецца дзяржавай-партнёрам НАТО, праўда, малаактыўным удзельнікам праграмы “Партнёрства дзеля міру”.

У такой сітуацыі, калі мы пачынаем адстойваць статус незалежнай і суверэннай дзяржавы, клапоцімся аб рэгіянальнай бяспецы хоць бы ў форме мінскіх пагадненняў па Данбасе, займаем нейтральную пазіцыю ў расійска-ўкраінскім канфлікце, гэта Крамлю не падабаецца. Нас не хочуць разумець, чаму беларусы супраць размяшчэння на нашай зямлі рускай ваеннай авіябазы і іншых іх ваенных аб’ектаў на беларускай тэрыторыі. Аднак міралюбівы характар беларускай знешняй і ваеннай палітыкі – падмурак рэгіянальнай бяспекі і стабільнасці.

## Дзень за днём

**У студзені-маі знешнегандлёвы тавараабарот Беларусі знізіўся на 16,4 %. Экспарт беларускай нафты і калійных угнаенняў зменшыўся на 1,5 млрд. USD. Амаль 500 імпартных тавараў патрапілі ў чорны спіс. Беларусам прыйдзецца плаціць за ваду ў пустуючых кватэрах і без лічыльнікаў. Многія айчынныя ВНУ павысілі кошт навучання студэнтаў.**

**За дзве змены ў дзіцячых лагерах адпачылі 287 тысяч беларускіх школьнікаў. Тры беларускія тэлеканалы з 5 па 21 жніўня будуць трансляваць летнюю Алімпіяду ў Рыа-дэ-Жанейра. 28 рэгіёнаў краіны пацярпелі ад моцных навальніц з ураганамі. У нацыянальным аэрапорце ураган пашкодзіў 8 самалётаў, 4 раёны Мінска засталіся без вады.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** Пасля няўдалай спробы ваеннага перавароту ў Стамбуле ўвялі надзвычайнае становішча, прэзідэнт краіны Р. Эрдаган пазбег гібелі выпадкова, шмат ваенных у турмах.

**Англія.** Офіс прэм'ер-міністра краіны ў другі раз у гісторыі заняла жанчына, дачка святара 59-гадовая Тэрза Мэй, яна скончыла Оксфардскі ўніверсітэт, узначальвала МУС.

**Арменія.** Спецслужбы затрымалі каля 200 чалавек пасля перастрэлкі і захопу раніцай узброенымі людзьмі паліцэйскага ўчастка раёна Эрэбуні ў Ерэване.

**Казахстан.** У ходзе антытэрарыстычнай аперацыі ў Алма-Аце загінулі 3 паліцэйскія і гараджанін, у чэрвені падчас тэракту ў Актобе колькасць ахвяр дасягнула 19 чалавек.

**ЗША.** Услед за атакай на паліцыю ў Даласе у горадзе Батон-Руж злачынцы застрэлілі яшчэ траіх паліцэйскіх, сем чалавек атрымалі раненні, перад гэтым затрымалі 3 бандытаў.

**Расія.** Эксперты Еўразійскага банка развіцця папярэдзілі, што эканоміку Беларусі чакае працяглася стагнацыя і ў 2017 годзе ў выпадку далейшага пагаршэння знешніх умоў.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што ўкраінцы лічаць Нагорны Карабах часткай Азербайджана, а афіцыйны Баку не прызнае таксама анексію Крыма Расіяй.

**Ірак.** Баевікі групоўкі "Ісламская дзяржава" пацвердзілі гібель у баях за горад Масул аднаго са сваіх галоўных ваенных камандзіраў, 30-гадовага чэчэнца Умара Шышані.

**Расія.** Вельмі жорстка адрэагавалі ў МЗС РФ на словы міністра абароны Польшчы А. Мацярэвіча пра дзейнасць рускіх збольшага да Валынскай разні 1943-1944 гадоў.

**Канада.** Сусветнае антыдопінгавае агенцтва заклікала адхіліць усіх расійскіх спартсменаў ад міжнародных спаборніцтваў за створаную ў РФ допінгавую сістэму.

**Калумбія.** МЗС краіны пацвердзіла, што за 12 гадзін пасля адкрыцця граніцы мяжу пераадолелі 35 тысяч венесуэльцаў, каб купіць тут паесці, лякарствы і іншыя тавары.

**Японія.** Упершыню ў гісторыі краіны 82-гадовы імператар Акіхіта пацвердзіў, што ў бліжэйшыя некалькі гадоў ён адмовіцца ад сваёй пасады, верагодна з-за праблем здароўя.

**Нарвегія.** Пасля 6 гадоў знаёмства афіцыйна зарэгістравалі шлюб знакамітыя біятланісты Оле-Эйнар Б'ёрндален і беларуская Дар'я Домрачава, іх сям'я чакае восенню першынца.

**Расія.** Спробу рэйдарскага захопу пераждыў новы футбольны стадыён "Зеніт-арэна", які пачалі ўзводзіць яшчэ ў 2007 годзе і ніяк не могуць закончыць да чэмпіянату свету-2018.

**ЗША.** У сваім твітары славутая беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка паведаміла, што ў канцы года стане мамай, стварае сям'ю і робіць перапынак у спартыўнай кар'еры.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканаміст У. Кавалкін папярэдзіў, што Беларусі пагражае маштабны фінансавы крызіс, бо даўгі банкам выраслі ў 2 разы, трэць дзяржсектару і АПК амаль што банкруты.

**Салігорск.** БКК заключыла кантракт на пастаўкі калію да канца года ў Кітай па 219 USD за тону, цэны ўпалі на 30 % да мінулага года, у Індыю пастаўкі крыху даражэй на 8 USD.

**Баранавічы.** Рабочыя завода ЖБК правялі забастоўку супраць беднасці, запатрабавалі павысіць зарплаты, якія ўпалі ў 2 разы, тут пачасціліся прастоі, не хапае сыравіны.

**Смалявічы.** Новы пасол Беларусі ў Кітаі К. Руды заявіў, што кітайска-беларускі індустрыяльны парк "Вялікі камень" чакаюць перамены з трансферам тэхналогій.

**Рагачоў.** Ад удару маланкі ў вёсцы Кургание вечарам пацярпеў на пападворку 9-гадовы хлопчык, яго з апёкамі галавы і перадплечча даставілі ў рэанімацыю райбальніцы.

**Пухавічы.** У закрытым рэжыме суд Мінскага раёна пачаў разгляд справы 11 мясцовых жыхароў, якія 2 гады выкрадалі і гвалтавалі працаваўшых на трасе М3 прастытутак.

**Гомель.** На падставе звестак КДБ Следчы камітэт завярыў расследванне крымінальнай справы ўрача, які за хабар 100-200 USD дапамагаў прызыўнікам "адкасіць" ад арміі.

**Навагрудак.** За лічаныя гадзіны ліўня ў райцэнтры выпала найбольш у краіне ападкаў – 43 мм, 47 % месячнай нормы, за меддапамогай у Беларусі звярнуліся 36 пацярпелых ад стыхіі

**Івянец.** Без тлумачэння прычын улады Беларусі хацелі пазбавіць права служыць у аднаўленым ім касцёле ксяндзу Леху Баханеку і двум яго ным польскім калегам па сану.

**Рагачоў.** У родны горад вярнуўся 65-гадовы А. Хлапкоў, якому ўрачы ў Мінску зрабілі ўнікальную аперацыю, хвораму на рак перасадзілі вырашчаную штучна трахею.

**Ветка.** Каля апоўначы на прасёлачнай дарозе за вёскай Сталбун 17-гадовы хлопец на мапедзе сутыкнуўся з малодшым братам на веласіпедзе, калі вырашыў яго пастрашыць.

**Гродна.** З-за ўдару маланкі днём у вёсцы Некрашы загарэлася царква, у выніку пажару былі пашкоджаны дах і столь, закопчаны сцены, маёмасць храма не пацярпела.

**Мінск.** У разгар сезона сын арыштаванага боса ФК "Дынама" Ю. Чыжа адправіў у адстаўку гал. трэнера серба В. Рашавіча з памочнікамі, у РФ перайшоў капітан А. Гутар.

**Камянец.** У лясным масіве за вёскай Падбур'е мясцовы грыбнік-пенсіянер знайшоў велізарны здаровы падасінавік вышынёй з 10-літровае вядро.

**Мікашэвічы.** З-за даўгоў па зарплаце ФК "Граніт" пакінулі вядучыя футбалісты, каманда можа не дагуляць у чэмпіянаце Беларусі ў вышэйшай лізе, дзе летась заняла 5-е месца.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Кліенты Беларусбанка з 1 жніўня будуць плаціць за прагляд балансу па картцы ў чужых банкаматах



■ FINANCE.TUT.BY

**Беларусбанк з 1 жніўня 2016 года ўводзіць плату за прагляд балансу па картцы ў банкаматах і інфакіёсках іншых банкаў. Пра гэта паведамляе прэс-служба банка. Пры гэтым навіна не закране зняцця наяўных.**

Цяпер у прыладах банкаў-партнёраў (Белаграпрамбанк, БПС-Сбербанк, Белінвестбанк) у залежнасці ад валюты рахункі будуць браць - 10 капеек, 10 цэнтаў (ад долара ці еўра) або 5 расійскіх рублёў.

Калі ж вы захочаце скарыстацца банкаматамі або інфакіёскі іншых беларускіх банкаў, то будзьце гатовыя дадаткова заплаціць 50 капеек, 30 цэнтаў (ад долара ці еўра) і 20 расійскіх рублёў.

У выпадку выкарыстання прылад замежных банкаў плата за прагляд балансу будзе яшчэ больш: - 1 рубель, 50 цэнтаў (ад долара ці еўра) і 35 расійскіх рублёў.

Аднак банк звяртае ўвагу, што зняцце наяўных у банкаматах банкаў-партнёраў па-ранейшаму ажыццяўляецца без спагнання ўзнагароджання.

Акрамя таго, без камісіі інфармацыю аб стане рахунку можна атрымаць у банкаматах і інфакіёсках Беларусбанка, Інтэрнэт-банкінгу, М-банкінгу, SMS-банкінгу, SMS-абвестцы з адлюстраваннем астатку рахункі, у ТБ-банкінгу і кругласутачнай сэрвіснай службе ААТ «Банкаўскі працэсінгавы цэнтр »па тэлефоне (017) -299-25-23.

У прэс-службе таксама падкрэсліваюць, што новая камісія не будзе распаўсюджвацца на трымальнікаў картак чужых банкаў. У выпадку прагляду балансу ў банкаматах Беларусбанка па картцы іншага банка плату за гэта можа ўзяць толькі банк-эмітэнт «пластыка». Наяўнасць і памеры такіх узнагарод неабходна ўдакладняць менавіта ў іх.

Нагадаем, раней Беларусбанк заявіў, што з 1 жніўня будзе ўведзена камісія за плацяжы наяўнымі. Праўда, пазней тэрмін з'яўлення такой платы перанеслі - на 1 кастрычніка 2016 года.

## Вырасла дзіцячая дапамога

У Беларусі павялічаная дзяржаўная дапамога на дзяцей, звязаная з памерам бюджэту пражытачнага мінімуму (БПМ)

Ад 1 жніўня БПМ павялічылі на 3,3%, цяпер ён складае 175,50 рубля. Такім чынам, аднаразовая дапамога пры нараджэнні першага дзіцяці ад сёння складае 1.755 рублёў, пры нараджэнні другога і наступных дзяцей — 2.457. Аднаразовая дапамога жанчынам, якія сталі на ўлік у дзяржаўных арганізацыях аховы здароўя да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці, — 175,50.

Вырасла таксама штомесячная дапамога на дзяцей, старэйшых за 3 гады, з асобных катэгорый сем'яў, якія вызначаюцца заканадаўствам. Дапамога на дзіця-інваліда цяпер складае 122,85 рублёў, на іншых дзяцей у сям'і — 87,75.

Акрамя гэтага, павялічылі дапамогі па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў: на першае дзіця — да 252,39 рубля, на другое і наступных дзяцей — да 288,44, на дзіця-інваліда — да 324,50 рубля.

Новыя дапамогі будуць дзейнічаць да 31 кастрычніка.

*Марына Носава, БелаПАН*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** ААТ "Нафтан" і Мазырскі НПЗ атрымалі загад ад улад краіны прыпыніць адгрузкі паліва на экспарт да асаблівага распараджэння, бо РФ скарацíла пастаўкі нафты.

**Шаркаўшчына.** Урад Беларусі выдзеліў раёну дапамогу матэрыяламі з дзяржрэзерву на ліквідацыю наступстваў тарнада са смерчам, які абрушыўся на райцэнтр з ваколіцамі.

**Глыбокае.** Ураган зачапіў краем і вёску Краўцы, за 5 хвілін разбурыў дах і комін адной з хат, паваліў за 5 хвілін практычна ўсе дрэвы, электрычныя слупы, завалы ліквідавалі.

**Віцебск.** Жыхарам са стажам непрыватызаваным кватэр у вобласці ўстанавілі адзіны паніжаючы каэфіцыент – 0,1 для найму ў дзяржавы цяпер ужо арэнднага жылля.

**Докшыцы.** У раёне жыхары не паспелі прыватызаваць каля 700 кватэр, з іх 366 – у самім райцэнтры з-за фінансавых праблем і адсутнасці спадчыннікаў на жыллё ў старых людзей.

**Паставы.** Завод "Беліт" у райцэнтры адкрыў новы цэх тэхнічнай сурветкі замест участка, прынялі на працу яшчэ 50 чалавек, штомесяц на экспарт ідзе яе адгрузка да тысячы тон.

**Сянно.** На аб'ектах да абласных "Дажынак" сталі працаваць ужо 650 будаўнікоў, капітальна рамантуецца 31 жылы дом, цэнтральная плошча, гарпарк, ФАК з кацельняй.

**Віцебск.** Старшы афіцэр армейскага спецназа арганізаваў сваёй 34-гадовай жонцы скачок з парашутам на яе дзень нараджэння, але ён не раскрыўся і маладая жанчына загінула.

**Орша.** На трасе на Віцебск за вёскай Высокае намеснік камандзіра палка АМАП Сяргей Манаеў выратаваў жыццё кіроўцы, чый аўтамабіль вылецеў у кювет і загарэўся.

**Лепель.** Днём ля вёскі Пагарэлае 22-гадовы вадзіцель на VW вылецеў на сустрэчную паласу пад фуру, разам з ім у ДТЗ загінула 78-гадовая пасажырка-пенсіянерка.

**Браслаў.** Навуковыя супрацоўнікі нацпарку "Браслаўскія азёры" выявілі нетыповы для рэгіёна від земнаводных – балотную чарапаху, яна занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі.

**Віцебск.** На працягу тыдня ў горадзе падчас фестывалю "Славянскі базар" правялі больш 130 розных культурных мерапрыемстваў, пасля перапынку яго госцем стала А. Пугачова.

**Мёры.** На працягу двух дзён райцэнтр святкаваў Дзень горада з паказальнай гульнёй у амерыканскі футбол, шоу мыльных пузыроў, паказам мод, канцэртамі і феерверкам.

**Полацк.** Падчас адпачынку з жонкай на беразе возера Якаўцы пазна вечарам пайшоў купацца жыхар Наваполацка і патануў, на вадаёмах вобласці загінулі ўжо 38 чалавек.

**Орша.** У горадзе адкрылі па праграме "Газпрам - дзецям Беларусі" новы спорткомплекс "Алімпіец" з заламі боксу і для гульнявых відаў спорту з рухомай трыбунай на 250 месц.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Краязнаўцы ізноў сабраліся ў Германавічах

■ Уладзімір Скрабатун

У суботу 30 ліпеня краязнаўцы нашага краю з'ехаліся ў Германавічы ў літаратурна-мастацкі музей на чарговую традыцыйную, штогадовую краязнаўчую канферэнцыю. Музей носіць імя Міхася Райчонка, краязнаўцы і мастака, сына Ады Эльеўны Райчонак, які заўчасна пакінуў гэты свет. Яна і стварыла музей, выкупіўшы ў дзяржавы за свае грошы будынак пад яго.

Цяперашняя краязнаўчая канферэнцыя адметная тым, што на яе завітаў дудар Віталь Воранаў, які, між тым, пісьменнік, перакладчык, выкладчык універсітэту. Узімку жыве ў Пазнані (Польшча), а ў летнія месяцы ў Удзеле. Займаецца адраджэннем дударскіх традыцый на Глыбоччыне, а ўладам прыйшлася да спадобы яго ідэя праводзіць у Глыбокім рэгіянальныя дударскія фэсты. Дарэчы, свой дудар быў і ў тэатральнай трупе Ігната Буйніцкага, што было адлюстравана на здымках пач. XX ст, якія прадэманстраваў Віталь Воранаў.



Падарункі ад Віталя Воранава для літаратурна-мастацкага музея прымае Ада Эльеўна Райчонак. *Фота Ул. Скрабатуна.*

Рыгор Леанідавіч Шарыпкін, настаўнік Залескай СШ, стваральнік школьнага музею, адзін з нашых даўніх аўтараў, адкрыў краязнаўчую канферэнцыю дакладам "Сем цудаў Залесчыны". Сярод адных з гэтых цудаў, знойдзены не так даўно, – рукапіс вершаванай байкі "Размова мужыка з панам", які паходзіць з часоў паўстання К. Каліноўскага.

Трэба адзначыць, што самую вялікую групу выступоўцаў складалі якраз аўтары гісторыка-краязнаўчых матэрыялаў, якія ў свой час змяшчаліся ў газеце "Вольнае Глыбокае". Так, напрыклад, Людміла Ардынская з Радзюкоў распавяла пра род Бароўскіх, якія да 1939 г. мелі свой маёнтак у Радзюках, а цяпер, штогод, сюды прыязджаюць пляменнікі са сваімі сем'ямі.

Наш даўні аўтар Кліменцій Кожан прачытаў даклад, прысвечаны беларускаму гісторыку Міколу Ермаловічу, які некалі пачынаў свой працоўны шлях у Шаркоўшчыне. Міколу Ермаловіча паталагічна ненавідзяць многія літоўскія гісторыкі, бо ён выкрыў іхнюю хлусну ў апісанні гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Сапраўдная старажытная Літва – тэрыторыя Заходняй Беларусі, бо толькі там сустракаюцца паселішчы: Літва, Літвяны, Літвічы, Літоўшчына (адна з іх стала часткай вёскі Мярэцкія). На тэрыторыі Жамойці (Жмудзі), якая потым прыхапіла сабе назоў Літва, такіх назваў паселішчаў, якраз, няма! А самі цяперашнія беларусы – колішнія літвіны.

Зміцер Лупач, наш аўтар, прадставіў даклад Беразвечча: гісторыя і сучаснасць".

Натуральна, і аўтар гэтых радкоў браў удзел у канферэнцыі і распавёў пра лёс легендарнага агранома Баляслава Лапыра, беларускага патрыёта, які заклаў на Глыбоччыне высокагатунковыя вішнёвыя сады.

Сама гаспадыня музею Ада Райчонак выказала шкадаванне, што апошнім часам адбываецца ачарненне імя славутага садавода Івана Паўлавіча Сікоры, з якім яна сама была добра знаёмая. Не дапусціць гэтага – наша агульная задача.

Сённяшнія краязнаўцы выкарыстоўваюць і найноўшыя тэхналогіі. Напрыклад, здымка краязнаўчых фільмаў-прэзентацый. Леанід Дзехцяроў, выкладчык Відзаўскагадзяржпрафліцэя, паказаў фільм «Святыя дрэвы», які ён стварыў разам са сваімі навучэнцамі.

Ці ведае спадарства, што па назве горада Браслава быў названы вялікі маразільны траўлер (ВМРТ) "Браслаў", першае судна гэтай серыі, якое прыбыло на Камчатку. На новы карабель паглядзець масава прыходзілі гараджане. Ён здзіўляў памерамі. Такога траўлера яшчэ ніхто не бачыў на паўвостраве.

У першы рэйс у 1962 годзе экіпаж БМРТ "Браслаў" узяў 54 000 цэнтнераў рыбы — самы вялікі ўлоў па Далёкім Усходзе на дадзены тып судна.

Такі даклад, з добрай відэапрэзентацыяй, з мноствам здымкаў, прадставіў настаўнік з Браслаўшчыны Віктар Бунта. Між іншым, было яшчэ адно судна, сухагруз, дзе таксама прысутнічала імя Браслава – «Браслаўлес», які перавозіў лесаматэрыялы.

Кожная краязнаўчая канферэнцыя, натуральна, пляцоўка для новых знаёмстваў, абмена думак, планаў, абмеркавання новых адкрыццяў. Такой была і цяперашняя. Між іншым, ужо хутка, 13 жніўня, Ада Эльеўна запрашае на Бульбяны фэст.



Удзельнікі краязнаўчай канферэнцыі ў Германавічах. *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Уночы скралі дзевяць ліхтароў

**У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа, узбуджаная 26.07.2016 па ч.I арт.205 КК Рэспублікі Беларусь па факце крадзяжу дзевяці светаназапашвальных ліхтароў.**

**Інфармацыя пра злачынства:**

Перыяд часу, у які здзейснена – у ноч з 16.07.2016 на 17.07.2016.

Месца здзяйснення злачынства – Глыбоцкі раён, в. Арэхаўна, вул.Цэнтральная, д. 13.

Акалічнасці злачынства – крадзеж дзевяці светаназапашвальных ліхтароў у ноч з 16.07.2016 на 17.07.2016 па вул. Цэнтральнай, в. 13, в. Арэхаўна, Глыбоцкага раёна. Светаназапашвальныя ліхтары набываліся пад маркай "Цудоўны сад" мадэль "350". Дадзеная маёмасць была выкрадзена з дваровай тэрыторыі па вышэйзгаданым адрасе.

Навочных сведкаў і асобаў, якім вядомыя якія-небудзь акалічнасці здзейсненага злачынства, прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта на адрас: г.Глыбокае, вул.Леніна, в.95, каб. №9, ці патэлефанаваць на нумар: 5-04-12.

Загадзя ўдзячны за супрацоўніцтва, з павагай,

**А.Д.Касцючэнка,** *следчы СА Глыбоцкага РАСК, лейтэнант юстыцыі.*



## У Шаркоўшчынскім раёне злавілі нелегальнага ветэрынара

**Інспекцыяй МНС па Шаркоўшчынскім раёне усталяваны факт ажыццяўлення грамадзянінам прадпрымальніцкай дзейнасці без дзяржаўнай рэгістрацыі ў сферы аказання ветэрынарных паслуг.**

3 верасня 2008 года па красавік 2016 года ветэрынар-нелегал аказваў паслугі па абследванні буйной рагатай жывёлы ў сельскагаспадарчых прадпрыемствах Шаркоўшчынскага раёна. Прыбытак, атрыманы ад ажыццяўлення гэтай незарэгістраванай прадпрымальніцкай дзейнасці, склаў 1400 рублёў.

У адносінах парушальніка складзены адміністрацыйны матэрыял па частцы 1-1 артыкула 12.7 КоАП. Акрамя таго, грамадзяніну прад'яўлены да выплаты адзіны падатак за аказанне ветэрынарных паслуг у суме 1200 рублёў.

Па выніках разгляду матэрыялаў праверкі ў эканамічным судзе Віцебскай вобласці парушальніка прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 63 рублёў з канфіскацыяй атрыманага прыбытку ад незаконнай дзейнасці, паведамляе прэс-цэнтр інспекцыі МНС па Віцебскай вобласці.

***НІВ.***

## Бюджэт пражытачнага мінімуму з 1 жніўня павялічаны да Br175,5

БПМ працаздольнага насельніцтва з 1 жніўня па 31 кастрычніка складае Br193,58; пенсіянераў – Br134,40; студэнтаў – Br170,46; дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў – Br112,30; дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў – Br155,82; дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў – Br191,50.

У сувязі з павышэннем БПМ са жніўня павялічацца мінімальныя працоўныя і сацыяльныя пенсіі; надбаўкі, павышэнні да пенсій і даплаты людзям ва ўзросце 75 гадоў і старэйшым; дапамогі па доглядзе інваліда I групы або асобы, якая дасягнула 80-гадовага ўзросту; дапамогі на дзяцей: пры нараджэнні першага дзіцяці – 10 БПМ, другога і наступных дзяцей - 14 БПМ; па доглядзе дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 18 гадоў (1 БПМ); на дзяцей ад 3 да 18 гадоў у перыяд выхавання дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў (0,5 БПМ), на дзяцей старэйшых за 3 гады з асобных катэгорый сем'яў (0,5 БПМ, 0,7 БПМ); на дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека (0,7 БПМ), і іншыя сацыяльныя выплаты, якія вылічаюцца з памеру БПМ.

***БелТА.***

## У Беларусі ўстаноўлены новыя памеры мінімальных спажывецкіх бюджэтаў

Так, мінімальны спажывецкі бюджэт на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек з 1 жніўня па 31 кастрычніка 2016 года ў разліку на месяц складае Br285,43. Пастановай Мінпрацы і сацабароны ўстаноўлены таксама сярэднедушавыя мінімальныя спажывецкія бюджэты маладой сям'і з трох чалавек з 1 жніўня па 31 кастрычніка – Br312,24; працаздольнага насельніцтва - Br366,80; пенсіянераў – Br288,03; студэнтаў – Br271,96; дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў - Br233,11; дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў – Br307,90; дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў – Br311,94.

***БелТА.***

# Заўсёды варта найперш падумаць, перш чым рабіць супрацьпраўны ўчынак

**Прафілактыка асацыяльных паводзін грамадзян у сферы сямейна-бытавых адносін, п'янства на сённяшні дзень адзін з асноўных накірункаў дзейнасці органаў унутраных спраў.**

■ **Аляксандр Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

**Крымінальным закана-даўствам Рэспублікі Беларусь** прадугледжаны шэраг артыкулаў Крымінальнага кодэксу, дзеянне якіх у асобных выпадках распаўсюджваецца на грамадзян, што ўчыняюць злачынствы ў побыце.

**Артыкул 153. Наўмыснае прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання**

Наўмыснае прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання, гэта значыць пашкоджання, што прывяло да кароткачасовага растройства здароўя альбо нязначную ўстойлівую страту працаздольнасці, –

караецца грамадскімі працамі, або штрафам, або папраўчымі работамі на тэрмін да аднаго года, або арыштам на тэрмін да трох месяцаў.

**Артыкул 154. Катаванне**

1. Наўмыснае прычыненне працяглай болі ці пакут спосабамі, якія выклікаюць асаблівыя фізічныя і псіхічныя пакуты пацярпелага, альбо сістэматычнае нанясенне пабояў, не пацягнуўшае наступстваў, прадугледжаных артыкуламі 147 (наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання) і 149 (наўмыснае прычыненне менш цяжкага цялеснага пашкоджання) гэтага Кодэкса, (катаванне) –

*караюцца арыштам на тэрмін да трох месяцаў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да трох гадоў, або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.*

2. Катаванне, учыненае ў дачыненні да заведама для вінаватага цяжарнай жанчыны, альбо непаўналетняга, альбо асобы, якая знаходзіцца ў бездапаможным стане або ў залежным становішчы, –

*караецца абмежаваннем волі на тэрмін ад аднаго года да трох гадоў або пазбаўленнем волі на тэрмін ад аднаго года да пяці гадоў.*

**Артыкул 186. Пагроза забойствам, прычыненнем цяжкіх цялесных пашкоджанняў або знішчэннем маёмасці**

Пагроза забойствам, прычыненнем цяжкіх цялесных пашкоджанняў або знішчэннем маёмасці агульнанебяспечным спосабам, калі меліся падставы баяцца яе ажыццяўлення, –

*караецца штрафам, або папраўчымі работамі на тэрмін да аднаго года, або арыштам на тэрмін да шасці месяцаў.*

**Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь** таксама прадугледжана адказнасць за правапарушэнні ў побыце:

**Артыкул 9.1. Наўмыснае прычыненне цялеснага пашкоджання**

ч.1. Наўмыснае прычыненне цялеснага пашкоджання, якое не прывяло за сабой кароткачасовага расстройства здароўя або нязначнай устойлівай страты працаздольнасці, –

*цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.*

ч.2 Нанясенне пабояў, якое не пацягнула прычынення цялесных пашкоджанняў, наўмыснае прычыненне болю, фізічных або псіхічных пакут, учыненыя ў дачыненні да блізкага сваяка або члена сям'і, калі ў гэтых дзеяннях няма складу злачынстваў –

*цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.*

**Артыкул 17.1. Дробнае хуліганства**

Нецэнзурная лаянка ў грамадскім месцы, абразлівае прыставанне да грамадзянаў і іншыя наўмысныя дзеянні, якія парушаюць грамадскі парадак, дзейнасць арганізацый або спакой грамадзян і выражаюць ў відавочнай непавазе да грамадства, –

*цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад двух да трыццаці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.*

**Артыкул 17.3. Распіванне алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва, спажыванне наркатычных сродкаў або псіхатропных рэчываў, іх аналагаў у грамадскім месцы або з'яўленне ў грамадскім месцы ці на працы ў стане ап'янення**

Распіванне алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва на вуліцы, стадыёне, у скверы, парку, грамадскім транспарце або ў іншых грамадскіх месцах, акрамя месцаў, прызначаных для ўжывання алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва, або з'яўленне ў грамадскім месцы ў п'яным выглядзе, які абражае чалавечую годнасць і маральнасць, альбо спажыванне ў грамадскім месцы наркатычных сродкаў або псіхатропных рэчываў без прызначэння лекара, альбо спажыванне ў грамадскім месцы аналагаў наркатычных сродкаў або псіхатропных рэчываў –

*цягнуць накладанне штрафу ў памеры да васьмі базавых велічынь;*

знаходжанне на працоўным месцы ў працоўны час у стане алкагольнага, наркатычнага або таксікаманічнага ап'янення –

*цягне накладанне штрафу ў памеры ад адной да дзесяці базавых велічынь;*

дзеянні, прадугледжаныя часткамі 1 і 2 гэтага артыкула, учыненыя паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такія ж парушэнні, –

*цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад двух да пятнаццаці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.*



Фота: dneprovec.by

За ўсе пералічаныя злачынствы і правапарушэнні, прадугледжаныя сур'ёзныя меры крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці, таму заўсёды варта падумаць, перш чым рабіць супрацьпраўны ўчынак.



Фота: www.arw.gov.by

За бягучы год у сферы сямейна-бытавых адносін учынена 5 злачынстваў, з іх чатыры прэвентыўнай накіраванасці, адно – прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

Паважаныя сугр756грамадзяне, з 25 па 31 ліпеня гэтага года на тэрыторыі раёна праводзіліся мерапрыемствы па папярэджанні злачынстваў і правапарушэнняў у сферы сямейна-бытавых адносін "ПОБЫТ".

**Калі Вам не абыякавыя здароўе і лёсы вашых блізкіх, на Вашых вачах адбываюцца п'яныя дэбошы са збіццём і пагрозамі, альбо Вы самі сталі ахвярай гвалту і беззаконня, па ўсіх гэтых выпадках Вы можаце ананімна звярнуцца ў аддзел унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама, на кругласутачную "гарачую лінію", на тэлефоны: 2-27-02, МТС 597-21-74, Велком 314-89-02 або 102.**

# Арыгінальная саколка ад Віктара Дудкевіча

**Майстар з Глыбокага Віктар Дудкевіч зрабіў арыгінальную саколку, малюнак на якой стылізаваны пад беларускую літару Ў.**

■ **Зміцер Лупач**

Малюнак на ёй выкананы метадам набіванкі, форму для якой майстар зрабіў сам. Займацца набіванкай Віктар Дудкевіч пачаў каля года таму, а вывучаць сімволіку на беларускіх арнаментах ён стаў значна раней, як толькі пачаў працаваць у Глыбоцкім Доме рамёстваў. Зараз у Глыбокім наўрадці знойдзеш іншага чалавека, які ведае столькі пра значэнне розных сімвалаў на беларускіх арнаментах.

"Зараз у модзе саколкі з беларускім арнаментам, а я зрабіў сваю аўтарскую працу," – кажа майстар.

На малюнку мужчынскі і жаночы сімвалы зліваюцца ў адзін – сімвал ачышчальнага нябеснага агню.

Дыякрытычны знак над літарай Ў зроблены ў выглядзе ўсмешкі з аўтографам мастака. Таксама на гэтым знаку змешчаны сімвалы засеянага поля і цяжарнай жанчыны – усё гэта для нашых продкаў было знакам дабрабыту.



Майстар таксама зрабіў некалькі хустачак, у афармленні якіх выкарыстаны віцебскія ўзоры. "Зараз такія хусцінкі становяцца моднымі, – кажа Віктар Дудкевіч, – вось мне і захацелася звязаць моду са старадаўнімі часамі. А каб хустачкі былі сваімі, арыгінальнымі, я выкарыстаў для іх афармлення нашы віцебскія ўзоры".

Віктар Дудкевіч працуе метадыстам у Глыбоцкім Доме рамёстваў, займаецца адраджэннем старадаўняй дзіцячай цацкі, вывучае беларускія арнаменты, піша карціны, займаецца разьбой па дрэве.

# Здаровае харчаванне як частка здаровага ладу жыцця



**Рацыён харчавання ў значнай ступені вызначае здароўе насельніцтва, рост яго колькасці і развіццё.**

■ **Д. Шыльчонак,** *фельчар-валеолаг*

За апошняе дзесяцігоддзе павысіліся тэмпы зменаў у рацыёне харчавання і ладзе жыцця насельніцтва, выкліканыя індустрыялізацыяй, урбанізацыяй, эканамічным развіццём рынку. Гэта аказала значны ўплыў на якасць рацыёну і на здароўе насельніцтва Беларусі.

І хоць у цэлым узровень жыцця павысіўся, прадукты харчавання сталі больш даступнымі і разнастайнымі, тым не менш, гэта прывяло да істотных праблемаў, якія выкліканы няправільным харчаваннем, зніжэннем фізічнай актыўнасці насельніцтва, а таксама спадарожнаму ўсяму гэтаму росту хранічных захворванняў, прычыны якіх звязаны з незбалансаваным рацыёнам харчавання.

Асаблівую асцярогу выклікае тэндэнцыя апошніх гадоў да зніжэння фізічнай актыўнасці насельніцтва, вядзенню маларухомага ладу жыцця, выкліканая, у прыватнасці, наяўнасцю аўтатранспарту, выкарыстаннем бытавых прыбораў, якія дазваляюць знізіць працаёмкасць дамашняй работы, згортваннем працоўных месцаў, якія патрабуюць ручной фізічнай працы, і вольнага часу, які пераважна ўяўляе сабой баўленне часу, не звязанае з фізічнай актыўнасцю.

З прычыны вышэйпералічаных змяненняў у вобразе жыцця і рацыёне харчавання насельніцтва істотна ўзрастае рызыка развіцця неінфекцыйных хвароб, такіх як захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, артэрыяльная гіпертэнзія, інсульты, цукровы дыябет, атлусценне. Усё гэта з'яўляецца прычынамі непрацаздольнасці і заўчаснай смяротнасці насельніцтва.

**Каб пазбегнуць неспрыяльных наступстваў, звязаных з няправільным рацыёнам харчавання**, неабходна прытрымлівацца простых прынцыпаў здаровага харчавання, вызначаных Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя.



1. Здаровае збалансаванае харчаванне грунтуецца на разнастайных прадуктах пераважна расліннага, а не жывёльнага паходжання.

2. Разнастайную гародніну і садавіну трэба ўжываць некалькі разоў у дзень (каля 500 грамаў). Неабходна аддаваць перавагу прадуктам "мясцовай" вытворчасці.

3. Малако і малочныя прадукты з нізкім утрыманнем тлушчу і солі (кефір, кіслае малако, сыр, ёгурт) неабходныя ў штодзённым рацыёне.

4. Замяніць мяса і мясныя прадукты з высокім утрыманнем тлушчу на бабовыя, рыбу, птушку, яйкі або посныя гатункі мяса. Порцыі мяса, рыбы ці птушкі павінны быць невялікімі.

5. Кантраляваць паступленне тлушчу з ежай (не больш за 30% ад сутачнай каларыйнасці) і замяніць жывёльны тлушч на тлушч раслінных алеяў.

6. Абмежаваць спажыванне цукру: прысмакаў, кандытарскіх вырабаў.

7. Агульнае спажыванне солі, з улікам солі, якая змяшчаецца ў хлебе, кансерваваных і іншых прадуктах, не павінна перавышаць адной чайнай лыжкі ў дзень. Рэкамендуецца выкарыстоўваць ёдаваную соль.

8. Каб падтрымліваць масу цела ў рэкамендуемых межах, неабходная штодзённая ўмераная фізічная нагрузка.

9. Падрыхтоўка ежы на пары, варэнне, запяканне або апрацоўка у мікрахвалевай печы памяншае колькасць тлушчу ў гатовых стравах. Варта пазбягаць шматразовага разагрэву ежы, бо ў ёй не толькі разбураецца частка вітамінаў і іншых важных рэчываў, але і ўтвараюцца новыя, часцей таксічныя кампаненты, якія правакуюць захворванні кішачніка і печані. У працэсе падрыхтоўкі няварта пераварваць і смажыць ежу. Лепш, калі гародніна (за выключэннем бульбы і буракоў) будзе варыцца або тушыцца 5-10 хвілін. Гэта захавае ў іх пажыўныя і біялагічна актыўныя рэчывы.

Важна памятаць, што збалансаваны рацыён харчавання з'яўляецца неад'емнай часткай умацавання і падтрымання здароўя чалавека на працягу ўсяго яго жыцця.




Юрыя Калбасіча

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, творчага плёну, сямейнага дабрабыту!

Сёння свята адзначаем
І вам вершы прысвячаем!
Хочам мы зрабіць прызнанне:
Вы – узор для пераймання.

І на працы вы актыўны,
Пунктуальны і стабільны.
Зладзіце з любым заданнем,
Нават з самым нерэальным.

*Калектыў ВГ*

## Падзяка

Раптоўна пайшоў з жыцця дарагі чалавек, **Аляксандр Сямёнавіч Луганаў**. Выказваю падзяку айцу Мікалаю, пеўчаму Аляксандру Кашко, суседзям, сябрам памерлага, аднакласнікам – усім, хто прыняў удзел. Асаблівая падзяка - кіраўніцтву Глыбоцкага дэпартамента аховы і калегам па працы. Нізкі Вам паклон!

*А. Г. Луганава*

## МНС інфармуе

**на 02.08.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 403;
Гібель людзей – 44, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 13;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Супрацоўнікі інспекцыі не губляюць надзею на тое, што сярод нашых паляўнічых не будзе парушальнікаў

**З 20 жніўня, у адпаведнасці з Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, адкрываецца сезон палявання на лася, аленя высакароднага, аленя плямістага, лань.**

■ **Валерый Катовіч,**
*старшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

У гэты перыяд дазволена здабываць дарослых самцоў, а таксама селекцыйных жывёл любога полу і ўзросту. Выкарыстоўваць можна наразную паляўнічую зброю з дульнай энергіяй кулі звыш 3000 Джоўляў і гладкаствольную паляўнічую зброю з выкарыстаннем патронаў, забяспечаных кулямі, паляўнічыя лукі і арбалеты. Паляваць дазволена ружэйным спосабам з засады, з падыходу на працягу сутак. Для таго, каб паўдзельнічаць у такім паляванні, паляўнічаму неабходна звярнуцца да арандатара паляўнічых угоддзяў пры ўмове наяўнасці ў паляўнічага сапраўдных дакументаў на права палявання.

У выпадку, калі паляўнічы або грамадзянін, які не мае дазвальных дакументаў на права палявання, рашыцца на незаконную здабычу, памер кампенсацыі шкоды, згодна з дзеючымі законамі за адну асобіну лася і аленя высакароднага складзе 300 базавых, аленя плямістага і лань – 120 базавых велічынь, таксама ўзбуджаецца крымінальная справа.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету звяртае ўвагу паляўнічых на неабходнасць выканання мер бяспекі пры карыстанні агнястрэльнай паляўнічай зброяй. **Паляўнічая зброя павінна быць разраджана** пры:

■ пераадоленні на паляванні розных перашкод, пераходах па кладках праз ручаі, рэкі;

■ падыходзе да населенага пункту, прывалу, збору;

■ сустрэчы са службовымі асобамі органаў паляўнічага кантролю, унутраных спраў, а таксама службовымі асобамі карыстальніка паляўнічых угоддзяў, якія ажыццяўляюць ахову паляўнічых жывёл у паляўнічых угоддзях.

Гэта толькі малая частка тых мер бяспекі, якія павінны строга выконваць паляўнічыя.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі не губляюць надзею на тое, што нашы паляўнічыя не парушаць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання.

***

**Аб усіх правапарушэннях, якія ўчыняюцца ў прыродаахоўнай сферы, вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8-02156-2-86-70 або мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66- 78 (МТС).**



